РАССЫЛКА #3

27 КАСТРЫЧНІКА, 2020

# КУЛЬТУРНЫ СУПРАЦІЎ У БЕЛАРУСІ



БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ

БЕЛАРУСКІ ПЭН-ЦЭНТР



Фота: Arek PASOŻYT/artinfo.pl



Мінулы тыдзень быў насычаны падзеямі – працягваліся арышты і ціск на дзеячоў і дзяячак культуры, але і супраціў таксама не сціхаў.

*Беларускі фонд культурнай салідарнасці* і *22 дзеячы і дзяячкі культурнай сферы* запісалі відэазварот у падтрымку Народнага ультыматуму і Агульнанацыянальнай забастоўкі.

# 1. КРУГЛЫ СТОЛ ДЗЕЛЯ ПРАДСТАЎНІКОЎ ТВОРЧЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ І ІНІЦЫЯТЫВАЎ

**24 КАСТРЫЧНІКА БЕЛАРУСКІ ПЭН-ЦЭНТР ІНІЦЫЯВАЎ У МІНСКУ КРУГЛЫ СТОЛ.**

Падчас яго ўдзельнікі і ўдзельніцы абмяркавалі найбольш вострыя праблемы, з якім сутыкнуліся беларускія творчыя арганізацыі і іх сябры ва ўмовах грамадска-палітычнага крызісу, а таксама магчымыя і неабходныя сумесныя дзеянні.

Удзельнікі і ўдзельніцы сустрэчы падтрымалі працу ПЭНа па зборы і аналізе парушэння правоў і свабод у дачыненні да культурных дзеячаў і дзеячак, а таксама вырашылі падтрымліваць камунікацыю і дзейнічаць разам.



# 2. СУПОЛЬНАЯ ЗАЯВА

**БЕЛАРУСКІ ПЭН-ЦЭНТР І САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ПРЫНЯЛІ СУМЕСНУЮ ЗАЯВУ.**







У ёй арганізацыі падкрэсліваюць, што рэпрэсіі супраць інтэлектуальнай і творчай эліты з’яўляюцца мэтанакіраванымі дзеяннямі рэжыму, якімі ён імкнецца перашкодзіць рэалізацыі права на свабоду слова і думкі, а таксама права на мірныя сходы і дэманстрацыі, гарантаваныя Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Арганізацыі падтрымліваюць агульнанацыянальны страйк!

# 3. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ, ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ, ЗВАЛЬНЕННЕ



20 кастрычніка ў Гародні быў затрыманы вядомы актывіст і музыка *Ігар Банцар (Mister X)*. Меркавана, што Ігар праходзіць па крымінальнай справе аб арганізацыі або актыўным удзеле ў масавых закалотах (арт. 342 КК РБ).
Ігар Банцар раней ужо адбыў 10 сутак адміністрацыйнага арышту (затрыманы 24 жніўня) у гарадзенскім ІЧУ, дзе трымаў галадоўку.

20 кастрычніка пасля выступу ў раёне вуліцы Ангарскай былі затрыманыя *Андрэй Лугін* і *Алена Палачанская*, удзельнікі гурту *LAUDANS*.

21 кастрычніка ім прысудзілі па 15 сутак адміністратыўнага арышту.

16 кастрычніка Андрэя і Алену ўжо затрымлівалі ў Сеніцы, дзе яны збіраліся зайграць канцэрт. Тады ў аддзяленні міліцыі з музыкамі правялі гутарку і адпусцілі.

Прапануем падтрымаць гурт і далучыцца да збору сродкаў на новае абсталяванне, бо 20 жніўня падчас вулічнай акцыі ў іх канфіскавалі іхняе.



Фота: Радыё Рацыя, Laudans


Фота: Раман Якімаў

21 кастрычніка быў арыштаваны паэт, актывіст і сябра Беларускага ПЭН-цэнтра ***Дзмітры Строцаў***. Дзмітры знік днём, і блізкія не маглі атрымаць інфармацыю пра яго месцазнаходжанне да наступнага ранку. 22 кастрычніка яму прысудзілі 13 сутак арышту. Дзмітры Строцаў удзельнічаў у акцыях пратэсту супраць фальсіфікацыі выбараў і адкрыта пісаў пра гэта. Пра сітуацыю ў краіне ён казаў і ў сваёй творчасці.

*Думаю, Родина — за пространством и языком, она не требует тактильного напоминания, не льстит и не улещивается, не обещает защиты и комфорта, но связана с понятиями благодарности и ответственности. На Родине бывает опасно. Родина — такой концентрат благодарности и ответственности, когда уже наступает забвение себя и возможен поступок" (2008).*

21 кастрычніка ***Андрэй Каралевіч***, кастынг-дырэктар студыі “Белроскіно” быў арыштаваны і асуджаны на 14 сутак. Андрэй таксама з’яўляецца прадусарам, рэжысёрам і выкладчыкам у Акадэміі мастацтваў.




Фота: Радыё Свабода

21 кастрычніка ***Вольгу Семчанка***, загадчыцу літаратурна-драматургічнай часткі Магілёўскага драмтэатру, судзілі за ўдзел адразу ў 2 мірных маршах, якія адбыліся 30 жніўня і 6 верасня ў Магілёве і прысудзілі штраф у памеры 10 базавых. Раней дзяўчыну ўжо пакаралі 7 суткамі арышту за аналагічнае правапарушэнне.

*"Сённяшні прысуд выглядае нават мяккім, у параўнанні з папярэднімі соднямі. Але ўсё роўна такіх судоў увогуле не павінна быць. Людзі, якія бяруць удзел у мірных маршах пратэсту, нічога не парушылі. Сярод удзельнікаў ёсць і жанчыны, і дзеці, і пенсіянеры. Калі яны ідуць па вуліцы з кветкамі, стужкамі – няўжо гэта нейкае злачынства? Гэта наша права па Канстытуцыі"*,– сказала Вольга пасля суду.

На супрацоўнікаў Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі ў Бабруйску, якія наважваюцца адкрыта выказаць крытыку дзеянняў уладаў, аказваецца ціск.
Артыст *Вадзім Бабініч* на вечарыне, прысвечанай творчасці Уладзіміра Высоцкага, заспяваў песню "Муры", за што атрымаў вымову, тры дакладныя запіскі і асуджэнне з боку калег. Пасля гэтага адмянілі адзін са спектакляў з удзелам Вадзіма. Ён разам з жонкай *Наталляй* – мастачкай – выйшлі з прафсаюзу. Артысты баяцца, што ціск на іх будзе ўзмацняцца і прывядзе да звальнення.



На *фонд "Краіна замкаў"*, які займаецца культурнай дзейнасцю, у тым ліку, арганізацыяй і правядзеннем экскурсій, ужо некалькі месяцаў аказваецца ціск.
Дырэктар фонду *Аляксандр Варыкіш*, распавёў, што як журналіст дапамагаў прэсавай службе Каардынацыйнай Рады. Пасля гэтага ў дачыненні фонда і асабістай маёмасці Аляксандра пачаліся праверкі: дзяржкантроль, падатковая служба, Камітэт па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, раённыя службы, санстанцыі, ахова прыроды і г.д.
Аляксандр упэўнены, што гэта палітычна матываваны ціск і просіць падтрымкі.



25 кастрычніка падчас маршу быў затрыманы *Эрык Арлоў-Шымкус*, музыка, які працаваў у аркестры Купалаўскага тэатру, удзельнік гурта "Люты сакавік". 27 кастрычніка яму прысудзілі 12 сутак арышту.
Таксама была затрыманая рэжысёрка і аператарка *Аляксандра Бабкова*. 26 кастрычніка ёй прысудзілі штраф у памеры 7 базавых.





# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



*"Мы ўсе струны аднаго музычнага інструмента. Усё наладжана. Засталося толькі зыграць".*
Адзін з лепшых гітарыстаў Беларусі ***Андрэй Апановіч (Triangle)*** пасля 15 сутак арышту распавядае пра пераадоленне страха і пра тое, як важна сыграць усім разам.
Паслухайце гісторыю Андрэя, які быў па-за палітыкай, а потым далучыўся да Руху і шмат чаго зразумеў за гэты час.
Гэта першы ролік, зроблены ў межах кампаніі "Разам мы сіла" ***Беларускага фонда культурнай салідарнасці***.

**УДЗЕЛЬНІКІ ГУРТУ "ТЯНИ-ТОЛКАЙ", АЎТАРЫ ГІМНА "АЛМАЗА", ЗАЎСЁДНІКІ КАНЦЭРТАЎ МУС І АМАП, ПАДПІСАЛІСЯ ПАД АДКРЫТЫМ ЛІСТОМ БЕЛАРУСКІХ ТВОРЦАЎ І ДАЛІ ІНТЭРВ'Ю ПАРТАЛУ TUZINFM.BY**

Самыя цікавыя цытаты з інтэрв'ю з гуртом:
*— Я мару, каб мой сын жыў у Беларусі, дзе яго будуць цаніць, шанаваць, дзе ён зможа рэалізавацца, дзе ўсё будзе шчыра, па праўдзе, і ніхто яго не будзе абмяжоўваць у яго жаданнях і марах.*
*— Я не хачу адсюль з'яжджаць. Цяпер многія едуць — я не хачу. Я не хачу, каб з'язджалі мае дзеці. Хачу, каб тут можна было дастойна жыць. І тыя ідэальныя, нават гіпертрафаваныя з'явы ў нашых песнях — калі яны будуць у рэальнасці, то гэта будзе крута. Вось у такой Беларусі я хачу жыць.*
*— Вяртаючыся да нашай рэальнасці — усё проста: нельга біць людзей.*
*— Я веру ў любоў. У сяброўства. У справядлівасць.*

Фота: TuzinFM.by



Фота: Naviband.by

Гурт *Naviband*, які актыўна ладзіць канцэрты ў падтрымку Беларусі ў розных гарадах Польшчы, даў інтэрв'ю telegra.ph,

**«БЕЛАРУСЫ МАЮЦЬ СЭРЦЫ АДКРЫТЫЯ І ВЯЛІКІЯ. І МІЛЬЁНЫ ГЭТЫХ АДКРЫТЫХ СЭРЦАЎ БУДУЦЬ ІСЦІ НАПЕРАД, ДА СВЯТЛА, І НІКОЛІ ЎЖО НЕ СПЫНЯЦЦА»**

# 5. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ

**АКТЫЎНАСЦЬ ДВАРАВЫХ СУПОЛЬНАСЦЯЎ НЕ СЦІХАЕ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ТОЕ, ШТО НА КАНЦЭРТЫ І ІМПРЭЗЫ РЭГУЛЯРНА ПРЫЯЗДЖАЕ МІЛІЦЫЯ І АМАП, А АДМІНІСТРАТАРАЎ ДВАРАВЫХ ЧАТАЎ АРЫШТОЎВАЮЦЬ І ВЫСОЎВАЮЦЬ ІМ АБВІНАВАЧВАННІ ПА КРЫМІНАЛЬНЫХ АРТЫКУЛАХ.**



Фота: Telegram, Facebook

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ




**У ПОЛЬШЧЫ ПРАХОДЗІЎ АЎКЦЫЁН У ПАДТРЫМКУ БЕЛАРУСКАГА ПРАТЭСТНАГА РУХУ**

Сабраныя сродкі будуць накіраваныя на псіхалагічную і медычную дапамогу пацярпелым падчас пратэстаў, на штрафы затрыманым, на падтрымку бастуючым і звольненым за погляды і г.д.
Месца правядзення аўкцыёна – платформа artinfo.pl.

22 кастрычніка адбыўся міжнародны інтэрактыўны канцэрт салідарнасці *#womenunited* ў падтрымку беларускага дэмакратычнага руху і *Марыі Калеснікавай*.
Германія, Швейцарыя, Беларусь і Украіна прынялі ўдзел у ім *online*, *offline* мерапрыемства прайшло ў Штутгарце на сцэне Theaterhaus Stuttgar.
Паглядзець запіс канцэрта можна па спасылцы.



*Амерыканскі ПЭН-цэнтр*,
*ПЭН-цэнтр Санкт-Пецярбурга*,
*ПЭН-Масква і асацыяцыя "Свабоднае слова"*,
а таксама *Шведскі ПЭН* выпусцілі заявы ў падтрымку паэта і сябра Беларускага ПЭН-цэнтра *Дзмітрыя Строцава*.

Фота: Marina Naprushkina/artinfo.pl, KANAPLEV+LEYDIK

Гэты матэрыял падрыхтаваны ў супрацы *Беларускім ПЭН-цэнтрам* і *Беларускім фондам культурнай салідарнасці*.







Інфармацыйны партнёр - партал TuzinFM.by




**КАНТАКТЫ**

E-mail: BFKS2020@protonmail.com
Telegram: @bel_culture
Facebook: https://www.facebook.com/bcsfbel
YouTube: http://bit.ly/youtube-byculture

**ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

